СІТУАЦЫЯ



# Ці вернецца Надзея Астапчук у вялікі спорт?

Нагадаем, што на Алімпіядзе-2012 у Лондане **Надзея Астапчук** заваявала залаты медаль, а ўжо праз некалькі дзён стала вядома, што Міжнародны алімпійскі камітэт дыскваліфікаваў спартсменку за станоўчую допінг-пробу – у арганізме лёгкаатлеткі знайшлі забаронены прэпарат метэналон. Зыходзячы з афіцыйнай версіі, допінг падсыпаў у каву Астапчук яе трэнер Аляксандр Яфімаў, хаця для многіх было зразумела, што такім чынам настаўнік вырашыў перавесці ўдар на сябе, каб пакаранне для его вучаніцы было больш мяккім.

У жніўні 2016 года дыскваліфікацыя Надзеі Астапчук закончылася, але на той час да першай непрыемнай навіны ўжо дадалася і другая. Стала вядома, што пры пераправерцы новымі метадамі проб Алімпіяды ў Пекіне ў Астапчук таксама знайшлі забаронены прэпарат, яна пазбаўлена яшчэ і бронзавага медаля Гульняў-2008.

*“Надзея пачала ўжо трэніравацца,* – паведаміў “Народнай Волі” **Аляксандр ЯФІМАЎ**. – *Праўда, аб удзеле ў спаборніцтвах размова пакуль не ідзе. Трэба вырашыць яшчэ некаторыя пытанні”.*

Як стала вядома, каб спартсменцы дазволілі ўдзел у спаборніцтвах, яна павінна вярнуць грошы міжнародным спартыўным арганізацыям, якія ў свой час зарабіла на спаборніцтвах. Беларускім заканадаўствам такая норма не прадугледжана, а вось Міжнародная федэрацыя лёгкай атлетыкі, відаць, мае намер спагнаць прэміяльныя з Надзеі Астапчук, калі тая ўсё-такі вырашыць вярнуцца ў вялікі спорт.

– Жаданне зноў выступаць, безумоўна, ёсць, але не ўсё ў гэтай сітуацыі залежыць ад мяне, – кажа Надзея. – Шчыра кажучы, трэніроўкі я ніколі не спыняла, але апошнія некалькі месяцаў пачала займацца паўнацэнна і ва ўзмоцненым рэжыме.

**– Міжнародная федэрацыя лёгкай атлетыкі пакуль не дала афіцыйнага дазволу на ўдзел у спаборніцтвах?**

– Ёсць некаторыя юрыдычныя моманты, якія не да канца зразумелы. У тым ліку і з вяртаннем прэміяльных. Не магу пакуль агучыць ні канкрэтныя лічбы, ні патрабаванні федэрацыі па той простай прычыне, што няма ніякай інфармацыі на руках. Сама жадаю ўбачыць спіс патрабаванняў, якія я павінна выканаць, каб ізноў выступаць.

**– Калі ўсё вырашыцца станоўча, якімі вынікамі парадуеце? Ці ёсць шанцы на вяртанне ў эліту сусветнага спорту?**

– Мае вынікі няхай пакуль застаюцца маленькім сакрэтам, але, скажам так, яны прыстойныя. І, можа быць, ужо ў гэтым годзе ўбачыце мяне на спаборніцтвах.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ВІНШУЕМ!

# Прыгажосць да Афрыкі давядзе

На конкурсе прыгажосці “Місіс свету – 2017”, які праходзіў нядаўна ў Ёханесбургу (Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка), беларуска Дар’я Рэут заняла трэцяе месца. І хоць карона толькі адна, званне віцэ-місіс таксама не даецца без барацьбы, тым больш што ў конкурсе бралі ўдзел 35 прыгажунь (у асноўным з Амерыкі, Азіі і СНД).

Мінчанка Дар’я Рэут, філолаг паводле базавай адукацыі, была рэдактарам глянцавага часопіса, зараз займаецца продажам вінтажнага адзення: бізнес для душы, як характарызуе яго сама Дар’я, а яшчэ рэверанс у бок тэатра, якім яна захаплялася ў студэнцтве. Разам з мужам – бізнесменам Юрыем Рэутам – яна выхоўвае маленькага сына Марка. Адным словам, паспяховая маладая жанчына з добрым дастаткам. Таму я спытала без хітрыкаў:

**– Чаго вам у Мінску не хапала, што вы паехалі на край зямлі на конкурс прыгажосці?**

– Напэўна, сонца. У снежні ў Ёханесбургу – лета.

**– Як вы трапілі на сусветны конкурс? Я нешта не чула, каб у Беларусі праходзіў адборачны тур.**

– А яго ў Беларусі і няма, на жаль. Але ёсць рэгіянальны дырэктар, які сам выбірае, на яго погляд, лепшы з прапанаваных варыянтаў.

**– Каб удзельнічаць у конкурсе прыгажосці, трэба выдаткаваць, напэўна, даволі значную суму?**

– Ёсць узнос, для такога конкурсу ён нармальны – прыкладна каля 1000 долараў. Да таго ж пералёт за свой кошт. Вядома, калі б у нас існаваў унутраны адборачны конкурс, на якім я перамагла б, далейшыя выдаткі аплацілі б спонсары.

**– Але ўсё-такі: дзеля чаго? Вы – мама, жонка, дзелавая жанчына. Чаго вам не хапала, што вы паехалі дэфіліраваць на подыуме?**

– Хацелася новых ведаў і вопыту, новых адчуванняў. Паспрабаваць сябе – сваю браню, у рэшце рэт! – у новай абстаноўцы. Зноў-такі новыя знаёмствы.

**– Знаёмствы сыдуць у пясок, і вельмі хутка, я вас запэўніваю...**

– Але хаця б у бліжэйшыя тры гады іх можна выкарыстоўваць. І наогул, быць удзельніцай конкурсу “Місіс свету” – гэта рэспектабельна. А калі яшчэ ты заняла прызавое – трэцяе! – месца...

**– Ці добра быў арганізаваны конкурс? Кармілі добра?**

– Вельмі добра.

**– Што купілі ў ПАР, якія прывезлі падарункі з Афрыкі?**

– Нам толькі аднойчы за восем дзён на кірмашы ў вёсцы далі паўгадзіны на набыццё сувеніраў. Што можна было купіць? Рэшткі сушанага мяса! Афрыканцы яго любяць і ядуць на сняданак, абед і вячэру. Рыбу практычна не ядуць. А мяса – любога вэнджання і засмажанасці.

**– Раскажыце, якія ў вас былі ўборы.**

– Вячэрняя сукенка, расшытая камянямі і стразамі. І касцюм у нацыянальным стылі, яго рабілі разам з беларускім дызайнерам Ганнай Забелінай. Яна працуе ў вельмі складанай тэхніцы з воўнай і лямцом.

**– Напэўна, у ПАР цяжка было ў ім выступаць?**

– Цяжка. Горача. Але паліто такое прыгожае, валошкавага колеру з узорам: рабіна, бусел, вожыкі, кветкі...

**– Яно засталося вам на памяць?**

– Не, вярнула – аўтарская праца! Можа быць, мастачка яго прадасць як своеасаблівы артэфакт. Быў яшчэ капялюшык ад Марыны Скрабоўской і брошка ад Мілы Ігнацік. Увогуле, з дызайнера па нітцы…

**– …канкурсантцы адзенне. А ў якіх нацыянальных сукенках былі, напрыклад, француажанкі або італьянкі? Іх дызайнеры – заканадаўцы моды ў свеце.**

– Ні француажанак, ні італьянак у Ёханесбургу не было. Было шмат амерыканак і азіятак.

**– З чаго складаўся сам конкурс?**

– Першы этап – інтэрв’ю. Мы індывідуальна размаўлялі з кожным членам журы прыкладна па пяць хвілін. Расказвалі пра сябе па-англійску. Як казалі самі арганізатары, 50 працэнтаў поспеху – гэта менавіта інтэрв’ю, і толькі потым – нацыянальны касцюм і выхад у вячэрняй сукенцы.

**– Пра што гаварылі? Распавядалі пра нашу краіну?**

– У тым ліку. Ніхто з членаў журы, акрамя аднаго расіяніна, абсалютна нічога не ведаў пра Беларусь. А калі я ішла па гатэлі са стужкай “Беларусь”, афрыканцы нават спыняліся і пыталіся: “Дзе гэта?” Я паказвала карту – яна ў мяне была забіта ў “Гугле” – і тлумачыла, што побач з Польшчай.



**– А Польшчу ведаюць?**

– Так, ведаюць. І Украіну ведаюць. А пра Беларусь – ніхто абсалютна.

**– Акрамя інтэрв’ю, з чаго яшчэ складаўся конкурс? Вядома ж, вам давялося агаляцца да купальніка?**

– Выхад у купальніках быў, але не ацэньваўся, мы ж – дамы.

**– Жонкі!**

– Мы наогул былі не вельмі задаволены пунктам “выхад у купальніках”. У конкурсе “Місіс свету” ўдзельнічалі жанчыны абсалютна рознай камплекцыі пасля родаў. Але купальнікі былі закрытыя, прыстойныя, плюс парэа *(лёгкая шаль, якая павязваецца на сцёгнах накшталт спадніцы. –* ***Рэд.****)*.

**– А што атрымала ў узнагароду прыгажуня з Ганконга Эліс Лі Джанета, якая заваявала першае месца?**

– Карону!

**– Дарагую? За колькі яе можна прадаць?**

– Навошта? Памяць. Яе можна перадаваць з пакалення ў пакаленне.

**– Але як апраўдаць перамогу матэрыяльна? Па-мойму, менавіта за гэтым і едзе большасць удзельніц. Калі толькі рэкламны бізнес дапаможа...**

– На гэта, вядома, многія разлічваюць. Але я ехала па добры настрой. У мяне ўжо быў досвед удзелу ў падобных мерапрыемствах: спачатку на філфаку, потым у рэспубліканскіх конкурсах. Гэта прыемны ўспамін, які хацелася паўтарыць. Я настройвалася на некалькі варыянтаў: атрымаю перамогу – выдатна, не – таксама добра. Праўда, чатырохгадовы сын быў незадаволены: “Нам патрэбна карона!” А вось муж шчаслівы: трэцяе месца – годны вынік.

**– Як ён цяпер называе вас?**

– Каралева! А ён, можна сказаць, цяпер кароль.

**Вікторыя ДРОЗД.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ



Алесь СІВЫ

# Ці дапаможа «Крумкачам» добрая фея?

Мне вельмі шкада гэту футбольную каманду, якая ў бліжэйшы час можа пакінуць вышэйшую лігу. Калі яна толькі ўзляцела ў эліту на хвалі энтузіязму асобных людзей і ўсеагульнага аптымізму балельшчыкаў, здавалася, што ім пад сілу шмат што. “Крумкачы”, якіх яшчэ за некалькі гадоў да гэтага ўсур’ёз ніхто не ўспрымаў, сенсацыйна перамагалі грандаў беларускага футбола, сталі камандай, якая прэтэндавала на тытул “народнай”. Народ ішоў на стадыён, сузаснавальнікі клуба стараліся крэатывіць і рабілі ўсё, каб балельшчыкі прыходзілі, як на свята.

Але грошы яшчэ ніхто не адмяняў. І калі пасля першага сезона фінансавая сітуцыя для “Крумкачоў” была яшчэ была “больш-менш”, то сёння нават самыя аптымістычна настроеныя балельшчыкі не асабліва вераць у светлае будучае прыватнай каманды.

Вось толькі лічбы. Восенню мінулага года запазычанасць “Крумкачоў” па заробках перад ігракамі была 160 тысяч рублёў, па падаходным падатку – 3100 рублёў, у фонд сацыяльнай абароны насельніцтва – 21.507 рублёў, федэрацыі – 38.125 рублёў, па траснферным кантрактам – 2100 рублёў. Усяго – каля 250 тысяч рублёў (прыкладна 125 тысяч долараў). Кіраўніцтва клуба даслала ў федэрацыю гарантыйны ліст, што да 31 снежня 2017 года разлічыцца па вышэйзгаданых рахунках, але зрабіць гэта, відаць, не атрымалася. У дадатак вісіць доўг перад барысаўскім БАТЭ, які яшчэ ў 2016 годзе пазычыў “Крумкачам” 150 тысяч долараў. Наколькі вядома, барысаўчане працягнулі тэрмін выплаты пазыкі, хаця гэта не азначае, што плаціць наогул не трэба.

Некалькі месяцаў таму былі надзеі на нейкага таямнічага спонсара, які быццам бы паабяцаў падтрымаць каманду, калі тая не вылеціць з вышэйшай лігі, але ўсё гэта так і засталося на ўзроўні чутак. Ва ўсялякім выпадку станоўчых навін з лагера “Крумкачоў” пакуль няма, а сам заснавальнік “Крумкачоў” Дзяніс Шунто адмаўляецца ад інтэрв’ю. Відаць, няма чым хваліцца.

У гэтай камандзе вялікія ганарары ніхто і ніколі не атрымліваў, а ў мінулым сезоне многім ігракам “крумак” і ўвогуле давялося гуляць без заробкаў. У СМІ паліліся крыўды, некаторыя футбалісты, якія не могуць атрымаць грошы, называюць Шунто “балаболам з вялікай літары”.

*“30 працэнтаў абяцалі аддаць да Новага года, а ўсё астатняе – у студзені,* – распавядаў футбаліст Вячаслаў Глеб. – *Усё гэта было сказана пад запіс у снежні ў федэрацыі – на пасяджэнні камітэта па статусе і пераходах ігракоў. Але ні капейкі я так і не атрымаў. З гэтым пытаннем разбіраецца федэрацыя. Калі яна не вырашыць яго, то буду падаваць у суд. Непрыемна, калі ты зарабіў грошы, а з цябе робяць дурня”.*

Дзяніса Шунто мне таксама вельмі шкада. Энтузіяст на свае ўласныя зберажэнні стварыў клуб, але ў беларускіх рэаліях аказаўся “рамантыкам у ружовых акулярах”. Вопыт “Крумкачоў” паказаў: не можа ў Беларусі нармальна існаваць прыватны клуб, няма для гэтага ўмоў. Альбо ты маеш бюджэтныя грошы, альбо багатага дзядзьку, які практычна на дабрачынных пачатках пагодзіцца фінансаваць каманду. Альбо зарабляеш на бонусах ад УЕФА за выступленні ў еўракубках, але для гэтага спачатку трэба знайсці багатага дзядзьку…

Шунто не багацей, а яму штогод трэба было знаходзіць каля паўмільёна долараў. Ужо на пачатку лютага гэтага года каманды вышэйшай лігі будуць падаваць дакументы на ліцэнзаванне, а адной з умоў атрымання ліцэнзіі з’яўляецца якраз сфарміраваны бюджэт. Ці знойдзе кіраўніцтва “Крумкачоў” 500 тысяч долараў у дадатак да тых даўгоў, што ўжо маюцца? Дарэчы, менавіта з-за пазык клубу забаранілі падпісваць новых футбалістаў.

Адным словам, сітуацыя для “Крумкачоў” найскладанейшая. Калі грошы не знойдуцца, то каманду могуць адправіць у ніжэйшую лігу, а то і ўвогуле ёй давядзецца сказаць усім “бывай”. Такая вось прыгожая казка з сумным фіналам. А можа, і не будзе сумнага фіналу? Можа, яшчэ з’явіцца якая-небудзь добрая фея? Так хочацца верыць…




ОГОРЧАЕМСЯ НЕУДАЧЕЙ

## Вначале появляется пятно…

***В последние годы яблони и груши в моем саду сильно повреждаются плодовой гнилью. Почему это происходит? Что делать?***

**Сергей КОСТЮЧЕНКО.**

*Толочинский район.*

Плодовая гниль (монилиоз) яблони и груши – широко распространенное грибковое заболевание. Его развитию способствует высокая влажность воздуха. После заражения на поверхности плода появляется небольшое буроватое пятно, которое постепенно увеличивается и через восемь-десять дней охватывает весь плод или большую его часть. Затем на плодах появляются крупные серовато-белые подушечки, расположенные чаще всего правильными концентрическими кругами. На подушечках образуются споры – источник последующего заражения плодов. В течение лета гриб развивается в нескольких поколениях. Большинство пораженных плодов опадает. Плоды, оставшиеся на ветвях, затвердевают и становятся черно-синими. Такие плоды сохраняются до двух лет.

Чтобы не было гнили, необходим регулярный сбор и уничтожение пораженных плодов летом, снятие мумифицированных плодов, сохранившихся на ветвях, в зимний период, удаление погибших ветвей. Не меньшее значение имеют меры, направленные на предотвращение повреждения плодов жуками-долгоносиками, гусеницами плодожорок и другими вредителями. Химическая борьба с паршой и другими грибковыми заболеваниями сдерживает развитие плодовой гнили.

СЕМЕЙНАЯ ФЕРМА

## И зимой козам приволье



В пастбищный сезон козы пасутся, горя не зная. Чтобы перевод их с пастбищного на стойловое содержание не был резким, я организую прогулки на свежем воздухе от 20 минут до двух часов. Чаще гуляем с козами так: сразу после окончания пастбищного сезона – по 1,5–2 часа, затем в зависимости от погоды – от 20 минут до 1,5 часа. Продолжаем прогулки и по снегу. Важно, чтобы он был не глубже 15 см и чтобы не было твердой корки сверху, иначе козы могут порезать ноги и вымя. Лишь бы довести животных до леса, а там снежный покров очень слабый, и они свободно гуляют, обгладывая хвою с веток, свесившихся под тяжестью снега. Все равно эти ветки свое уже отжили, так что деревьям козы не вредят. Не гуляем с ними, только когда мороз ниже 25°С или в сильный снегопад, метель. В этом случае я хожу в лес один и набираю в порубках лапника с таким расчетом, чтобы каждой козе досталось 0,5 килограмма.

Хвоя – хорошая витаминная подкормка. Ее ест даже молодняк. Правда, некоторым козам лапник не совсем по вкусу. Для таких готовлю хвойную муку. Тонкие ветки с иголками подсушиваю на русской печи и толку в ступе. Муку козе можно давать до 100 г, желательно в смеси с другими кормами.

Из хвои можно готовить и настои. Для этого лапник рублю топором или тяпкой в корыте, укладываю в марлевый мешок и опускаю в горячую воду. Томлю 6–12 часов. Козе даю до литра настоя. Приучаю к нему постепенно.

Зимой добавляю в корм и мелко перетертые жженные кости, печную древесную золу, в которых содержатся фосфор, калий, микроэлементы. То и другое просеиваю через мелкое сито. Золы кладу по чайной ложке с верхом, костяной муки – по чайной ложке без верха. Эту норму в расчете на взрослую козу даю раз в сутки.

**Федор ИСАЕВ.**

*Мстиславский район.*

ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ

## Не выбрасывайте шелуху чеснока – пригодится

У чеснока можно использовать не только луковицу, но и сухие листья, шелуху. 160 г любого из этих компонентов настаивают в ведре воды в течение суток и после фильтрации сразу же начинают опрыскивать растения, пораженные тлей и паутинным клещом.

Чеснок как растение может заметно снизить поражение черной смородины почковым клещом, если среди этого ягодника и между кустами посадить его зубчики-дольки. Если все же поражение клещами имеется, то необходимо летом кусты опрыснуть водной суспензией чеснока. Для этого достаточно 60–80 г растолочь в ступе, затем размешать в ведре с водой, и можно сразу же приступать к опрыскиванию. Через 5 дней обработку повторить.

Для обработки плодово-ягодных растений против листогрызущих гусениц и тлей применяют отвар, приготовленный из трех компонентов: размолотых луковиц чеснока, луковой шелухи и отходов табака. Для этого берут по 200 г каждого компонента, заливают 10 л воды и кипятят 2 часа. После остывания отвар процеживают и доливают водой до уровня 10-литровой отметки. Добавив 30–40 г хозяйственного мыла, приступают к опрыскиванию.

АЛЛО! СКАЖИТЕ, ПОЖАЛУЙСТА...

## Сорняки губят урожай

**Виктория Шулякова, г.Речица:**

***— Недавно в «Усадьбе» была опубликована интересная информация о сорняках. Хотелось бы подробнее знать об этих противниках урожая. Скажите, зависит ли вредоносность сорняков от сроков сева культурных растений?***

– Чем позже мы посеем или посадим те или иные культуры, тем больше сорняков появится на участке. Например, при наличии пяти сорняков на 1 кв. метр урожай картофеля снижается на 6–25%, при 10 сорняках – на 12–30%, при 50 – на 14–72%, при 100 – на 19–54%, при 300 – почти на 70%. При засоренности картофеля уменьшается масса клубней, ухудшается их товарный вид, возрастают потери урожая.

**Раздел ведет агроном Федор ВЕРАВОЙША.**



Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.

Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.

Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.

nvonlineinfo@gmail.com

http://www.nv-online.info

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

Падпісныя індэксы:

63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,

632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 15.01.2018 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 370 экз. Заказ № 154.